# ЯК РОЗНЫЯ НАРОДЫ ЯДУЦЬ



У розных народаў розныя звычаі.

Наш чалавек, калі трапляе да іншых людзей сьвету, дык дзівіцца з розных звычаяў тубыльцаў.

Для яды ў людзей ёсьць таксама сва-способы і звычаі. Так, афрыканскія племені, калі ядуць, дык адварочваюцца сьпіна ɔ да тых, хто прысутнічае, а то і зусім адыходзяцца ў бок.

Жыхар Албаніі есьць за шырмаю. Гэты звычай мае такое паходжаньне: албанец верыць забабонам, што нібы погляды чужых людзей прыносяць бяду.



На Ўсходзе мужчыны і жанчыны ядуць асобна. Турак раніцою п'е сваю каву і пры гэтым курыць люльку. Усякі веруючы турак ці татарын пачынае сваю яду з солі і канчае воцатам. Пачынаць яду з солі—гэта значыць застрахавацца сябе ад 70 хвароб, а воцат дасьць шчасьце ў жыцьці. Для нас гэта сьмешна. Госьць у туркаў павінен, для далікатнасьці, першым пачынаць есьці і апошнім канчаць.



Індусы ня ведаюць ні лыжак, ні відэльцаў. Яны бяруць звараны рыс, робяць з яго кулькі і спрытна кідаюць іх у рот. Сталом для іх служыць зямля, а талеркай—ліст расьліны. Нож індусу таксама не патрэбен, бо мяса яму падаецца дробна парэзанае, пры гэтым яму і дазваляецца. Індусы не ўсялякае мяса яму і дазваляецца. Індусы ядуць моўчкі і толькі варочаюць свой твар то на ўсход, то на поўдзень, то на захад, то на поўнач, гледзячы па тым, чаго яны жадаюць: справядлівасьці, пашаны, доўгага жыцьця ці багацьця. Калі індус п'е, то ён н

(Працяг чытай на 32 стар.)

ВЫДАВЕЦТВА ЦК ЛКСМБ „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА"

Рэдкалегія: ГАРБУЗ П. (адк. рэдактар), РАЦЭВІЧ В., ЯКІМОВІЧ А. (адк. сэкратар).

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ДЛЯ МЕНШЫХ ДЗЯЦЕЙ

# ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ОРГАН ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ

Год выданьня 2-гі

| Умовы падпіскі: | |
|---|---|
| На 1 месяц | 15 к. |
| На 3 м-цы | 45 к. |
| На 6 м-цаў | 90 к. |
| На 1 год | 1 р. 80 к. |

№ 1 (4) Студзень 1930 г.

Адрас Рэдакцыі і канторы: МЕНСК, КОМСАМОЛЬСКАЯ, 25

# ЗІМА Ў ВЁСЦЫ

Мы не баімся
сьнегу і сьцюжы.
З лыжамі, санкамі
Дзеці дружаць!





Фотоздымкі У. СЕМЯНЯКІ.

# ЛЯМПАЧКА ІЛЬІЧА

Апавяданьне *А. ЦІТАВАЙ* — Малюнкі *РОЗАНАВА.*

I

Янкаў бацька памёр зімою, а вясною прыйшоў да Янкавай маткі заможны селянін Антось ды кажа: „Аддай мне свайго хлопчыка, няхай мае быдла пасе ўлетку. І сыт будзе і адзет будзе, ды ящчэ на зіму якіх пудоў пяць збожжа заробіць“.

Падумала маці, падумала ды і аддала Янку Антосю, бо ў яе, акрамя Янкі, было яшчэ чацьвёра дзяцей, з якіх адзін быў зусім маленькі. Хлеба-ж у іх ня было, грошай таксама, і елі яны адну бульбу. Шкода было матцы аддаваць Янку да чужых людзей.

— Сыночак ты мой, маленькі ты мой!—галасіла яна, калі Янка адзеты стаяў ля калёс Антося.— А куды-ж ты ад нас паедзеш?! А каб-жа быў жывы бацька, ня пусьціў-бы ён цябе, маленечкі, з дому. А ці ўпільнуеш ты быдла тама?

А Янка ня плакаў. Ён зморшчыў свой лабок і сярдзіта пазіраў на Антося, нібы усё зло, усё гора было ад яго.

— Ня плач, мамка, спраўлюся, жыў буду,—сказаў Янка і палез на калёсы.

З хаты выбегла старэйшая сястра Янкі, Ганулька, дзяўчынка гадоў дзевяці. Яна ў хаце калыхала дзіця, але і ёй захацелася паглядзець, як паедзе Янка.

— Яначка,—гукнула Ганулька,—а як-жа твой Бобік і твае два галубкі без цябе застануцца?

І Янка ня вытрымаў. Ён ня мог ужо стрымаць сьлёз, якія даўно сьціскалі яму горла. Ён заплакаў і сьлёзкі пакаціліся па яго шчочках. Янка намерыўся ўжо было саскочыць з калёс, але Антось ухапіў яго за рукаў, крыкнуў на каня, і яны паехалі. Доўга стаяла маці ля дзьвярэй і глядзела ў той бок, куды паехаў Янка.

II

З гэтай пары пачалося для Янкі іншае жыцьцё. Доўга ня мог прывыкнуць Янка да новай хаты свайго гаспадара. Спаў ён на сяньнічку ў куточку на лаўцы і чуць сьвет, пасьнедаўшы кіс-

лага малака з хлебам, гнаў кароў у поле. Гаспадыня клала яму ў торбачку кавалак хлеба і кавалак сала.

Цэлы дзень да зьмярканьня пасьвіў Янка кароў.

Так і жыў ён, зарабляючы сабе кавалак хлеба. У добрае надвор'е Янку было весялей. Ён бегаў па полі, лазіў па дрэвах, калі каровы, пад'еўшы, крыху супакойваліся. Рабіў сабе дудачкі, кіёчкі, разглядаў казюлек, чарвячкоў, размаўляў сам з сабою і вучыўся пяяць, як птушкі пяюць. А ў дрэннае надвор'е Янку было зусім кепска. І холадна і сумна яму. Адзежа ўся мокрая. Здаецца, каб ведаў дарогу дадому, пабег-бы ён да свае маткі і пачаў-бы казаць, каб ня выпраўляла яго больш у чужыя людзі, бо яму тут вельмі нудна, вельмі цяжка.



*...але Антось ухапіў яго за рукаў, крыкнуў на каня, і яны паехалі.*

„А як-жа там мой Бобік, мае рудзенькія галубкі. Як-жа Ганулька"? І ўспаміны бягуць у Янкавай галоўцы, аж пра кароў забудзе ён.

А вецер шуміць, дождж сыпле. Здрыганецца Янка, апамятаецца, пазірае на кароў, якія таксама стаяць апусьціўшы галовы і завярнуўшыся ад ветру.

Пасярод лета зьезьдзіў Янкаў гаспадар да яго маткі. Завёз ёй 2½ пуды хлеба. Вярнуўшыся адтуль, гаспадар казаў Янку:

— Ну, брат Янка, твая маці к восені ў комуну перабярэцца. Толькі ня ведаю: лепш ёй там будзе ці не? Надумаўся твой бацька запісацца ў комуну. Сам то што? Памёр і ўсё, а ёй як цяпер будзе? Пазапісвалася галота і думаюць, што лепш у комуне жыць будуць. Бачыш і ляктрычнасьць да сваіх будынкаў праводзіць з мястэчка будуць. Ну, паглядзім ужо, паглядзім. Казала, што ўвосень перабірацца ўжо туды будзе, і як толькі пераедзе туды твая матка, дык і цябе забярэ,—дадаў ён,—ну, ідзі кладзіся спаць. Будзеш у комуне жыць, дык і заснуць не дадуць табе...

Так пражыў Янка пастухом усё лета да

познай восені. Аднаго разу ў халодны, але ясны васеньні дзень, калі Янка прыгнаў кароў дадому, гаспадыня і кажа яму:

— Ну, Янка, заўтра павінна маці твая па цябе прыехаць. Яна ўжо ў комуне жыве. Нядаўна пераехала.

Аж вячэраць не захацелася Янку. „Заўтра матка прыедзе, думаў ён, а можа і не?“ Доўга ня мог заснуць Янка, але пад раніцу здаўся і заснуў моцным сном. Яго разбудзіў голас гаспадыні:

— Янка, уставай, уставай хутчэй, вунь твая матка ўжо прыехала.

Ускочыў Янка борзьдзенька, адзеўся і выбег на двор.

— Мама, мама, ты па мяне прыехала?—крыкнуў Янка,—вазьмі мяне, мама, я ўжо дамоў хачу, я больш тут не застануся!

І Янка ўзьлез на калёсы, на якіх прыехала маці.

— Паедзем дамоў, мама?—пытаўся Янка.

А маці цалавала яго.

— Паедзеш, Яначка, паедзеш.

— Мама, а ты ўжо ў комуне? Ты мяне больш не аддасі кароў пасьвіць?

— У комуне, сынок, у комуне,—ледзь праўляецца адказваць маці,—больш нікуды не аддам цябе. Будзеш у школу хадзіць.



*А вецер шуміць, дождж сыпле...*

III

Ужо зьмяркалася, як раптам Янка ўбачыў ня вельмі далёка наперадзе нібы загарэліся нейкія зорачкі.

— Што гэта?—пытаецца ён у маткі.

— Гэта лямпачкі Ільліча ў нашай комуне запаліліся,—адказвае маці,—вось зараз пабачыш.

Аж падскочыў Янка на калёсах.

— Эх, сынок, не дажыў бацька да гэтых дзён. А як хацеў убачыць гэтае жыцьцё. Вось паглядзіш, як добра ў нас цяпер,—дадала маці і павярнула каня.

Яны ўехалі на двор. На двары было сьветла ад электрычнай лямпачкі. Каля ганку ў будынак таксама гарэла лямпачка. Да іх выйшаў нейкі чалавек:

— Ну, што, прывезла, Хадора, хлопца?—запытаўся ён.

— Вось і добра. Няхай жыве і вучыцца будаваць лепшае жыцьцё,—дадаў ён, адпрагаючы каня.

Маці з Янкам пайшлі ў той будынак. Яна павяла яго праз вялікі, сьветлы пакой, у якім стаялі сталы і паліцы з кнігамі. Ой, як тут было сьветла і чыста! Потым яна правяла яго праз доўгі калідор і адчыніла дзьверцы.

— Вось і наша кватэра, Янка,— кажа маці.

Янка ўбачыў сьветлы, чысты пакойчык. Тут была яго сястра Ганулька і брат Юзік, а самага маленькага брата ня было.

— Цімка ў ясьлях, трэба па яго схадзіць,—кажа маці.

— Янычка,—падыйшла да Янкі Ганулька,—я ўжо ў школе вучуся, у мяне кніжкі ёсьць, распранайся, пакажу. А мы і твайго Бобіка і галубкоў сюды прывезьлі, заўтра ўбачыш,—дадала яна.—Ну, чаго-ж ты стаіш?

А Янка стаяў і думаў. Думаў і глядзеў. Яму ня верылася, што гэта праўда, а ня сон.

Так лямпачка Ільліча зазьзяла ня толькі ў комуне „Кастрычнік“, але і ў жыцьці гаротнага пастушка Янкі.



*...я ўжо ў школе вучуся, у мяне кніжкі ёсьць, распранайся, пакажу.*

# ХВАСТЫ

**Казачка В. БІЯНКІ**

Муха лесам пралятае,
Муха сьмела так гукае:



— Гэй вы, гады, вы зьвяругі,
Ўсе мяне павінны слухаць.

Я ў Маскве была,
Загад здабыла:

Каму хвост прычэплен дарма,
Адсякаць адным ударам.



Напужалася гадзюка,
Зашыпела:—Вось дык штука,

Хто-б загад такі даць мог?
Хвост мне служыць замест ног.



Напужаўся ў рэчцы й рак
І гаворыць мусе так:

— Цяжка плыць
па рэчным дне,
Хвост—замест вясла ў мяне.

Акунь гэтак-жа, як рак,
Адказаў той мусе так:

— Трэба рыбам хвост-правіла,
Каб іх вірам ня круціла.

Дзяцел носам
у пень пляжыць,
І вось гэтак мусе кажа:

— Бачыш, пень дзяўбу так
скора,
Хвост мне трэба для падпоры.

І хлапчына-бакас
Хвост падняў напаказ.

Ты, бясхвосьціца,
ня знаеш,
Што хвастом сваім я йграю.



Я лятаю увесь дзень,
У мяне ў хвасьце



Пер‘е тонкае,
Вельмі звонкае,

Вецер пер‘е закранае—
Балалайка мая йграе.

Нават хітрая лісіца
Пад кусты ляціць-імчыцца,





І мармыча сабе так:
— У мяне, лісы,

Таксама хвост не для красы.
Паляцяць за мной сабакі,



Без хваста мне тут і сьмерць.
А хвастом я—круць ды верць!
Хвост туды,
Сама сюды,—
Сабакі скокнуць за хвастом,
Ну, а я ўжо—за кустом.



Муха лугам ляціць,
На траве карова сьпіць.
Падляцела муха сьмела,
На кумпяк карове села
І давай яе будзіць,
Тонкім голасам гудзіць:
— Ты навошта хвост трымаеш,
Што ад гэтага ты маеш?
Тут карова, нібы пугай,
— Хлоп!
І разьбіла
Сьмелай мусе лоб.

Пераклаў **А. Я—віч.**




Апавяданьне Р. Шатэрніка

Малюнкі Я. Кашкеля

ПЕТРЫК ужо вялікі хлопец. Яму 10 гадоў. Ён—піонэр. У школу ходзіць 2-гі год. Лемантар прайшоў, і яму даў настаўнік другую кніжку з цікавымі малюнкамі. Адно толькі бяда, што Петрык ня ладзіў з меншаю сястрычкаю Тацянкаю.

Абы толькі выйшлі старэйшыя з хаты—яны адразу-ж залабкі і схопяцца. Ну, і благая-ж гэта Тацянка! Возьме Петрыкаву кніжку, дастане з прыпечку вугаль ды давай выводзіць на ёй розныя крывулькі, або, як яна кажа,—лісункі. І нідзе ты ад яе не схаваешся. Прабаваў Петрык хаваць кніжку за комінам на печы, прыкладаў яе смалякамі—нічога, усё роўна і там выпара.

Сёньня, пасьля школы, зайшоў да Петрыка яго сябрук Грышка і паклікаў яго гуляць на вуліцу. Там яны зрабілі з сьнегу ґуру ды, усьцягнуўшы на яе санкі, з гучным сьмехам і крыкам спускаліся ўніз.

Тымчасам, Тацянка агледзелася—няма Петрыка. Яна аж павесялела. Борзьдзенька шмыганула на печ, дастала з-пад бэлькі Петрыкаву кніжку, расстаралася вугалю ды давай маляваць.

Замурзала ўсю кніжку. Навыводзіла розных конікаў, птушак...

Урэшце, ёй гэта надакучыла. Дастала яна нажніцы ды пачала вырэзваць з кніжкі розныя малюнкі. Аднаго дзядзьку, што быў намалёваны ў кніжцы з акулярамі, яна выразала ды прыляпіла сабе да ілба. Другі малюнак прыляпіла да носу, ды давай сьпяваць:

„До-до-до...“

Але нядоўга давялося ёй сьпяваць. Раптам— шусь у хату Петрык. Тацянка ня ведала, што ёй рабіць. Доўга ня думаючы, яна борзьдзенька шмыганула пад стол.

Петрык аж за галаву ўхапіўся, калі ўбачыў пашарпаную кніжку. Падняў гвалт.

— Вельмі бярэш...—пачаў ён праз плач,—я скажу тату, будзеш ты ведаць, як чапаць кніжку. Не табе, можа, дала яе настаўніца.

Тацянка не адказвала ні слова. Яна прышчурылася ў куточак ды чакала што будзе. Вочкі яе гарэлі ад сполаху.

На плач прышоў бацька.

— Што, зноў сашчапіліся, я вас паміру!

— Татачка, Тацянка парвала маю кніжку, — кажа з плачам Петрык бацьку.

— Нічога, сынок, я табе куплю новую. А ты, Тацянка, глядзі, другі раз я цябе. Вы-



*Нічога, сынок, я табе куплю новую.*

лазь, кажу, з-пад стала ды ідзі пацалуйся з Петрыкам, дык ён табе даруе.

— Ня хочу я цалавацца,—адказаў Петрык,— настаўніца казала, што няможна, бо праз гэта лёгка захварэць. Да твару прыліпаюць розныя мікробы і бактэрыі, дык яны ўзьлезуць на язык, а тады захварэеш.

— Вельмі ўжо навучыўся,—адказаў бацька.

— Настаўніца казала, што і абразоў ня трэба ў хаце трымаць. За імі шмат пылу, а ў пыле жывуць бактэрыі. Яны адтуль і ляцяць на хату. Я, як вырасту, дык усё роўна павыношу абразы з хаты. Яшчэ ім моляцца, а за іх людзі хварэюць!

— Петрык, я ўжо ня буду рваць твае кніжкі, і я налета ў школу буду хадзіць,—адказала, вылезшы з-пад стала, Тацянка.

Налета Петрык з Тацянкаю разам хадзілі ў школу.



*Хаўрусьнікі.*

*Малюнкі* **Рубана.**



# ДЗІЎНЫЯ КВЕТКІ

*ЗАГАДКА*

Не вясною і ня летам
Зацьвітае белым цьветам,
І ня то што—дзе-ні-дзе,
А па ўсёй зямлі цьвіце.

Усё бялюткае, аж зьзяе,
Мы бялейшага й ня маем.
Ня сеецца,
Не расьце,
А тры месяцы
Цьвіце.



Толькі-ж вясна к нам загляне,
Гэты цьвет адразу зьвяне.
Гіне цьвет увесь бяз плоду,
Пакідае толькі воду.

Адгадайце-ж, мае дзеткі,
Скуль бяруцца тыя кветкі?

Ю. Будзяк.

(З украінскай мовы).

# КАЦЯНЯ

*Апавяданьне Л. Н. ТАЛСТОГА*

БЫЛІ брат і сястра—Васілёк і Кацярынка; у іх была кошка. Вясною кошка прапала. Дзеці шукалі яе ўсюды, але не маглі знайсьці. Аднаго разу яны гулялі каля сьвірна і пачулі, што над галавою нехта мяўкае тоненькімі галаскамі. Васілёк узьлез па драбінках пад стрэху сьвірна. А Кацярынка стаяла долі і ўсё пыталася: „Знайшоў? знайшоў?“

Але Васілёк не адказваў ёй. Нарэшце, Васілёк закрычаў ёй: „Знайшоў, наша кошка... і ў яе кацяняткі: такія харошанькія, ідзі сюды баржджэй.“

Кацярынка пабегла ў хату, дастала малака і прынесла кошцы.

Кацянят было пяцёра. Калі яны крыху падрасьлі і пачалі вылазіць з-пад вугла, дзе вывеліся, дзеці выбралі сабе адно кацяня, шэранькае з белымі лапкамі, і прынесьлі дахаты. Маці параздавала ўсіх кацянят, а гэтага пакінула дзецям. Дзеці кармілі яго, забаўляліся з ім і клалі з сабою спаць.



Аднаго разу дзеці пайшлі гуляць на дарогу і ўзялі з сабою кацяня.

Вецер шавяліў салому па дарозе, а кацяня дурэла

з саломаю, і дзеці радаваліся ад гэтага. Потым яны знайшлі ля дарогі шчаўя, пашлі зьбіраць яго і забыліся аб кацяняці.

Раптам яны пачулі, што нехта моцна крычыць: „Назад, назад!“ і ўбачылі, што імчыцца на кані паляўнічы, а сьпераду яго два сабакі — згледзелі кацяня і хочуць яго схапіць. А кацяня дурненькае, заместа таго, каб уцякаць, прыгнулася да зямлі, згорбіла сьпінку і глядзіць на сабак.

Кацярынка напалохалася сабак, закрычала і пабегла адгэтуль. Васілёк з усяе сілы кінуўся да кацяняці і ў адзін час з сабакамі падбег да яго. Сабакі хацелі схапіць кацяня, але Васілёк кінуўся жыватом на кацяня і закрыў яго ад сабак.

Паляўнічы наляцеў і адагнаў сабак, а Васілёк прынёс дахаты кацяня і ўжо больш ня браў яго з сабою ў поле.

*ДЗЕЦІ! Шлеце ў рэдакцыю свае апавяданьні, малюнкі, допісы. Лепшыя з іх будуць надрукаваны ў часопісе.*

ХТО КАГО НАПАЛОХАЎ?









# Мы ўжо выраслі



Апавяданьне *ВЯСЕЛКІ* Малюнкі *Я. КАШКЕЛЯ*

Яшчэ раненька пачалі зьбірацца дзеці ў нулявую групу дзіцячага саду.

Кіраўніцы групы, цёці Наталачкі, яшчэ ня было. Дзеці прыходзілі, запісвалі на рэгістрацыі сваё імя, а потым расстаўлялі маленькія крэслачкі каля сваіх нізенькіх столікаў.

Пакуль ня было кіраўніцы, кожны мог займацца, чым хто хацеў: Бора і Зося ўзяліся складваць з кубікаў дом, Надзя, Каця і Алеся гулялі ў коні, а Ліда, Андрэйка і Кім ладзілі аўтобус.

Тут увайшлі яшчэ Стась і Валя.

— Добры дзень,—вітаюцца, салютуючы па-піонэрску.

— Добры дзень,—адказваюць усе.

— Як вы гуляеце? — пытае Стась, падышоўшы да Кіма.— Давайце і я буду з вамі гуляць.

— Мы рабілі аўтобус,—важна адказвае Кім.—Памагай нам, калі хочаш.

— Стась, Валя, вы перш зарэгіструйцеся, а потым ужо пачынайце гуляць,—кліча дзяжурная Алеся.

Стась і Валя падыходзяць да рэгістрацыі і старанна запісваюць у сваіх клетачках „Стась“ і „Валя“, а потым Стась пачынае рабіць аўтобус, а Валя ідзе да Боры і Зосі.

Валя ўважна разгледзела іх будынак і засьмяялася на ўсю групу.

— Ой, зірнеце сюды!—закрычала яна.—Бора і Зося гуляюць зусім, як маленькія дзеці

з першай ці другой групы. Вось якраз малыя будуюць такія дамы і з такіх кубікаў.

Усе дзеці акружылі Бору і Зосю.

— Ну, чаго ты, Валя? Няхай гуляюць як хочуць,—сказала Каця.

— А і то праўда, што ў малой групе такі самы высокі дом пабудаваў учора Лёва,—сказаў Кім.

Усе дзеці засьмяяліся.

— Бора і Зося гуляюць з кубічкамі,—засьпявала Ліда.

— Ну, а хіба вы ўсе ня гуляеце ў кубікі? — заступіўся Бора.—Вы-ж яшчэ ўчора гулялі...



— Учора, можа, і гулялі, а сёньня ўжо ня будзем,—важна сказаў Андрэйка.—Мы ўжо вырасьлі і нам пара кінуць такую гульню.

— А нашто-ж тады кубікі? Нашто-ж будуць кубікі?—закрычала разам некалькі галасоў.

— Яны нам і не патрэбны,—сказала Валя.

— А куды-ж іх падзець? А можа ты скажаш іх вон выкінуць?—прыстаў да Валі Бора.

— Нашто вон?—заступілася Алеся.—Мы іх падаруем малодшым групам.

— А і праўда? Мы іх падаруем малодшым.

— Праўда, яны нам больш не патрэбны.

— Мы ўжо вырасьлі!

— Трэба толькі запытацца ў цёці Наталачкі, ці можна падараваць кубікі,—сказала Каця.

— А вось і цёця!—закрычалі дзеці.

Увайшла цёця Наталачка, а за ёю яшчэ дзеці.

— Што тут у вас? Чаго вы спрачаецеся?—запыталася цёця.

— Мы хочам аддаць кубікі малодшым групам, калі можна, бо мы ўжо вырасьлі, і ня бу-

дзем гуляць, як малыя дзеці,— борзьдзенька сказала Каця, і яе чорныя вочкі радасна заблішчалі.

— Аддаць можна,—сказала цёця Наталачка,—толькі дарма вы думаеце, што кубікі для вас няцікавы. Калі вы іх складваеце, дык вы іх лічыце, і вучыцеся, такім парадкам, лічыць. Мы зробім так: трохі кубікаў пакінем сабе, будзем іх лічыць, а можа яшчэ і будаваць каму захочацца.

— Пэўна, захочацца,—уздыхнуў Бора. Дзеці засьмяяліся.

Скора Каця, Алеся і Кім зложылі кубікі ў скрыначкі і панесьлі іх у малодшую групу. Увайшоўшы, Каця паважна сказала:

— Мы вам прынесьлі падараваць кубікі, бо мы ўжо вырасьлі і ня будзем больш з імі гуляць.

А Алеся, ківаючы галоўкаю ў такт словам Каці, дадала:

— У нас заместа кубікаў будзе бібліотэка, і цёця Наталачка будзе нам чытаць, а скора ўжо і самі чытаць навучымся...

Тут Кім паставіў на стол скрыначкі з кубікамі.

— Дзякуем вам! Дзякуем!— закрычалі малыя, а нейкі кара-




пуз, паглядзеўшы на Кацю, Алеся і Кіма, задуменна і крыху зайздросна сказаў:

— Вось, яны ўжо вырасьлі...





# ЯК ЗДАБЫВАЮЦЬ ПЭРЛЫ

З пэрлаў (жемчуг) робяць розныя цацкі, пацеркі. Некаторыя жанчыны носяць такія пацеркі і думаюць, што гэта вельмі хораша. Але гэтыя модныя жанчыны ня ведаюць таго, што з-за бліскучых пэрлаў гіне мноства дзяцей.

Пэрлы водзяцца ў акіянах каля цёплых старонак. Яны нарастаюць малюсенькімі кропелькамі на ракавінках, у якіх жывуць морскія стварэньні—молюскі.

Багатыя эўропэйцы (ангельцы, французы і інш.) нажываюцца на здабычы пэрлаў. Яны за мізэрную плату наймаюць дзяцей—нэграў, аўстралійцаў і іншых,—якія павінны на дне акіяну шукаць пэрлы. Акіян звычайна вельмі глыбокі. Дзеці апускаюцца на дно і там борзьдзенька шукаюць ракавін з пэрламі. Але не заўсёды ўдала канчаецца такое вандраваньне па дне акіяну. Мноства дзяцей захліпаецца ў вадзе. Многа іх гіне ад акулаў або ад пілы-рыбы.






Апавяданьне *ЗЬМ. АСТАПЕНКІ* Малюнкі *А. ТЫЧЫНЫ*

I.

Ледзь пачало сьвітаць, будзіць дзед Якуба.

— Уставай, Якуб. На паляваньне пойдзем. Я ўжо і стрэльбу падрыхтаваў.

Сёньня дзед вясёлы. А Якуб яшчэ весялейшы: на паляваньне ідзе! Ледзь упрасіў учора дзеда ўзяць з сабою. Борзьдзенька Якуб апрануўся, і праз хвіліну ён з дзедам выйшлі з вёскі.

За плячыма ў дзеда стрэльба чорная, вялікая. А Якуб торбу нясе, каб зайцоў было куды класьці.

Ціха на полі. Сьнег белы, белы. А на сьнезе вузоры тонкія ды прыгожыя раскіданы. Разьбегліся вузоры па полі, нібы хто намаляваў іх.

— Што гэта, дзед?—дзівіцца Якуб.

— А гэта зайка-шалапайка сьлядкоў нарабіў. Вось мы пойдзем па іх, можа, зайку і напаткаем.

А сьлед шнурочкам завіўся ўдаль. Вядзе паляўнікоў. Стоп! Да куста сьлед прывёў. Кара ў кусьце пагрызена і сьнег навакол абтаптаны.

— Сілкаваўся тут касы,—тлумачыць дзед,—сьнедаў карою.

Ізноў пайшлі дзед з Якубам. А ля зайкавага сьледу другі зьявіўся. Гэты сьлед больш грубы. Пазурамі дзіркі ў сьнезе пароблены.

— А гэта хто ішоў, дзед?..

— А гэта ліска палявала. Хацела зайку злавіць. Вось пабачым, ці ўдалося ёй гэта?

І пайшлі-павіліся два сьляды: зайкаў і лісічкі. Раптам зайкаў сьлед павярнуў, зрабіў пятлю і пайшоў у другі бок.

— Хітраваў касы,—кажа дзед,—блытаў свае сьляды, каб ліска не знайшла ды не злавіла. А лісічкі сьлед памятусіўся, памятусіўся і пайшоў сабе ў лес.

— Не знайшла зайкі,—сьмяецца дзед,—абхітрыў зайка ліску, ну, ды нас з табою не перахітрує.

Ідзе Якуб за дзедам. Цікавіцца сьлядамі. Раптам, зайка з-за куста—скок!.. І пайшоў часаць па полі шэры ды даўгавухі.

— Ай-я-яй! зайка!—крычыць Якуб.

А дзед борзьдзенька зьняў стрэльбу.

— Бах-бах!—грукнула двойчы.

Паваліўся зайка. Ня будзе больш бегаць, сьлядоў на полі класьці.

— Добры зайка,—кажа дзед,—табе, Якуб, на шапку хопіць.

Палажылі зайку ў Якубаву торбу і пайшлі дамоў. Вясёлы дзед. А Якуб яшчэ весялейшы. Жарты. Першы раз на паляваньні і гэткая ўдача. Радасна Якубу.



*...і праз хвіліну ён з дзедам выйшлі з вёскі.*

А на полі сьлядкі, як вузоры віюцца. Вялікія, дробныя, усякія.

Дарогай дзед гаворыць Якубу:

— Вось гэта вавёрка бегла. Гэта ліска. А вось і воўк сягаў. Сьляды якія вялізарныя.

Задумаўся Якуб. Як па кнізе, па сьнезе чытаць можна—хто і куды хадзіў.

Хутка і дамоў прыйшлі паляўнікі. Больш нічога не напаткалі.

II.

Увечары Якуб пра паляваньне расказваў. Бацька хамут папраўляе. Маці кросны тчэ. А Якуб ім рас-

казвае, як ён з дзедам паляваў. Хваліцца, што гэта ён, Якуб, зайца забіў.

— Досыць ужо хваліцца, Якуб,—сьмяецца дзед,—спаць трэба.

І палез на печку. А Якуб за ім. На печы цёпла, прыемна. Дзед казкі, байкі сьмешныя расказвае. Вочы Якубавы зьліпаюцца і ўжо ледзь чуцен голас дзедаў. Памалу Якуб заснуў.

А за сьцяной—мяцеліца.



*...Бацька хамут папраўляе. Маці кросны тчэ. А Якуб ім расказвае, як ён з дзедам паляваў.*

— Гу-у-гу-у-у!..—С-с-с-с-с!.. Сыплецца сьнег.

Холадна там. Сьпіць Якуб на печцы і сьніць сабе, як зайка шэранькі па полі бегае, а за ім лісічка.

---

## РЫХТУЕМ ЗЬМЕНУ.

*Старэйшыя вучні Дукорскай сямігодкі праводзяць працу сярод вучняў з малодшых груп. Ужо дваццаць дзяцей падалі заявы аб залічэньні іх у атрад. Мяркуецца ў бліжэйшым часе організаваць групу акцябрат з малодшых дзяцей.*

**Г. Фрыд.**

## НА ТРОХ ВУЧНЯЎ —ЧАСОПІСЬ.

*Вучням 3-й Дукорскай сямігодкі вельмі спадабалася часопісь „Іскры Ільліча". З нецярплівасьцю чакаюць яны новых сьвежых нумароў. Падпіска праведзена добра. Цяпер трахаця на кожных трох вучняў прыпадае адзін нумар часопісі.*

*Варта ўсім школам узяць з нас прыклад.* **Пісарчык Гарасім.**

Верш *С. Маршака* Мал. *П. Гуткоўскага*



## КАРОМЫСЛА.

Раз каромысла заўзята
Загрымела на ўсю хату:
Горад па ваду ня ходзіць,
Ён ня ведае турбот:
Сталі жыць па новай модзе—
Увялі вадаправод!..

Ой, ня тыя цяпер бабы,
Ці то плечы сталі слабы?

Рэчка з розуму сышла:
Сама ў хату паплыла?

А бывала, к ёй з паклонам
Ішлі дзеўкі з перазвонам,
Ішлі дзеўкі па ваду,
Пелі песьні на хаду.

Падступаліся к ёй блізка,
Рэчцы кланяліся нізка:
Ой, ты бераг залаты,
Дай зачэрпаць нам вады!..

Ну, а зараз маладзіцы,
Як захочацца вадзіцы—
Круцяне аднэй рукой—
І вада бяжыць ракой.

Так, ня тыя цяпер людзі—
Мне жыцьця ад іх ня будзе.
Ужо ходзяць пагалоскі:
„Прэч каромысла і з вёскі!“

(З рас. мовы пераклаў **А. Я.**).






# Адкуль цукар бярэцца

Засprачаліся аднойчы вучні ў школе: „Адкуль цукар бярэцца?“

— Я лепш за ўсіх ведаю і дазвольце мне сказаць,—перапыняе ўсіх малы Саўка.

— Ну, кажы.

— Цукар мы бярэм у краме, а крама на цукровым заводзе. Там яго робяць.

— А з чаго-ж ён робіцца? — пытае Адасік.

— Гэтага я ня ведаю, — адступіўся назад Саўка.

Тут, калі дзеці гутарылі паміж сабою, падышла настаўніца. Адасіку так хацелася ведаць, з чаго той салодкі цукар вырабляюць, што падступіўся да настаўніцы і пытаецца ў яе:

— Цётка настаўніца, з чаго цукар робяць?

— О, Адасік, яго ня так лёгка рабіць. Вось паслухайце і вы ўсе, дзеці. Гэта цікава, як цукар робяць. Вясною па ўсёй Украіне сеюць буракі. Гэтыя буракі белыя і вельмі салодкія. Засяваюць буракамі многа зямлі. І вось, калі ўжо зусім стане



*На цукраварні.*

цёпла, бурачкі ўзыходзяць роўненькімі радкамі. Іх прарываюць трошкі, матыгаю падварушваюць зямлю, а калі яны зарастаюць травою, дык і полюць. Полюць буракі некалькі разоў.

— Але вось і лета мінае. Буракі ўжо вялікія вырасьлі. Тады людзі капаюць буракі і возяць на цукраварню. Там буракі складваюць у вялікія кучы і накрываюць саломаю, каб яны не гнаіліся пад дажджом.

Цэлы дзень і цэлую ноч працуюць рабочыя на цукраварным заводзе. Буракі на ваганэтках перавозяць у завод і там іх добра вымываюць. Абмытыя буракі крышаць машынаю. З бурачнай крышанкі машынамі выцягваюць сок, а сок той потым цэдзяць, каб быў чысты. Тады сок награваюць у чыгунох гэтак моцна, што ён робіцца густым. Густы цукравы сок яшчэ цэдзяць і зноў добра вываруваюць, каб ён стаў густым, як каша. Скора ў чыгунох робяцца крышталі. Доўга вараць яшчэ сок, мяшаюць яго, цэдзяць, аж пакуль у чыгунох не астаюцца толькі крышталі. Гэта і ёсьць той цукравы пясок, які мы п'ем з гарбатай. Гэты пясок вымаюць і сушаць. Апроч гэтага пяску, з рэшты робіцца горшы цукар, жоўты, а потым і самы горшы, якім кормяць жывёл.

Робяць цукар яшчэ і з цукровага чароту. Але больш ужываюць цукар з буракоў.

Н. ІВАНЧЭНКА.

---

**Важны акунь папаўся**









# У ЗЬВЯРЫНЦЫ

*Нарыс*

Н. ІВАНЧЭНКІ

## ЛЕЎ



З БОКУ ад клеткі з лісіцаю мы ўбачылі вельмі страшнага зьвера. На шыі зьвера калматая грыва, вочы сярдзітыя. Лапы тоўстыя і вялікія. Хвост доўгі, голы, толькі на канцы пучок валосься.

Вось дык зьвер!

— Як ён завецца, цётка настаўніца?—пытаюцца дзеці, тулячыся да Веры.

— Гэта леў, дзеці. Хоць ён і вялікі, але-ж ён радня нашай кошцы. Гэта—вялікая, вельмі дужая дзікая кошка. Леў жыве далёка, у цёплых старонках.

Леў найчасьцей жыве ня ў гурце, а толькі з ільвіцаю—сваёю жонкаю. Вунь яна з ім у клетцы. Яна таксама вялікая і дужая, але не такая, як леў.

Леў есьць розных зьвяроў, слабейшых за сябе. Ловіць ён зьвяроў уночы. Леў, калі ідзе на здабычу, дык часта страшна раве. Усе ад яго хаваюцца, бо адразу заб'е, калі зловіць.

Бывае леў жыве дзе-небудзь ля вёскі. Тады бяда людзям. Ён забівае жывёлу, і людзі ня могуць ніяк прагнаць яго, бо леў і дужы і хітры.

Калі леў пастарэе і ня можа лавіць зьвяроў, дык ён прыходзіць у вёску і ловіць коз. Старыя львы нападаюць таксама і на людзей.

Каб вырас з малога ільвяняці дужы вялікі леў, для гэтага патрэбна чакаць шэсьць гадоў.

Калі ўзяць ільва яшчэ маленькага, дык ён прывыкае да свайго гаспадара і тады ўжо зусім ня страшны.



*Самая вялікая яшчарка. Яна знаходзіцца ў Нью-Ерскім зьвярынцы*

## ТЫГРА



*Белыя мядзьведзі забаўляюцца. Жывуць яны ў Ледавітым акіяне.*

Потым дзеці падышлі да вялікай клеткі, дзе сядзеў зьвер, падобны на ільва. Але на ім ня было грывы. Шкура на ім паласатая.

— Гэты зьвер, дзеці, завецца тыграю. Ён таксама радня нашым катом і жыве ў цёплых старонках. Ён вельмі спрытны, добра і высока скакае, як кот, добра плавае, але лазіць па дрэвах яму цяжка.

Ён любіць лавіць здабычу там, куды зьвяры ходзяць піць ваду. Ён ловіць вялікіх зьвяроў, але есьць і малых, нават рыбу, чарапаху, яшчарку, а то і жабу.

Хоць тыгра і вялікая і дужая, але ўсё-ж баязьлівая. Калі моцна крычаць, махаць палкаю, дык тыгра палохаецца. Але бывае, што ўзлаваная тыгра сьмела накідваецца і на чалавека.



Калі тыгра жыве змалку з людзьмі, дык яна зусім ня злая. Адзін чалавек меў тыгру. Яна так прывыкла да гаспадара, што нават спала з ім у аднэй хаце.

— А я-б ніколі ня мог заснуць з тыграю. Яна такая страшная,—сказаў адзін хлопчык,—хадзем далей, цётка.

І дзеці пайшлі.

## ВЯРБЛЮД



*Малады слонь з Нью-Ёрскага зьвярынца ў добрым настроі.*

Хадзілі дзеці па садку, дзе быў зьвярынец, і дайшлі да загароды, а там стаяў вярблюд.

Вярблюд высока падняў сваю брудную морду і нешта жаваў. Які ён брыдкі! Стаіць на высокіх, тонкіх нагах, галава маленькая, а тулава вялікае, ды яшчэ і гарбаты. Валасы на шыі, на гарбох, на нагах калматыя, на ілбе грыўка. Валосьсе нейкае бруднае.

— Навошта вярблюдам гарбы?—спыталася адна дзяўчынка.

— А вось на што, — сказала настаўніца.—Калі вярблюд не працуе, дык ён вельмі многа есьць і борзда сычае. У гарбох вярблюда зьбіраецца шмат тлустасьці. Праз гэта ён можа працаваць доўга, нічога ня еўшы. Тлустасьць з гарбоў пераходзіць у кроў і гэтым жыве вярблюд. Ён доўга можа жыць і без вады.

— А навошта патрэбны вярблюды?—пытаюцца дзеці.



— Яшчэ і як патрэбны. Далёка ад нас, у вельмі цёплай старонцы (завецца яна Афрыкаю) ёсьць пустыня. У пустыні гэтай нічога няма, толькі пясок. Няма там расьлін, няма жывёлы, няма людзей. Пустыня гэта завецца Сахарай.

Праз Сахару трэба пераяжджаць, каб папасьці ў іншыя краіны. На чым-жа пераехаць? Асабліва, калі трэба ехаць некалькі тыдняў. Для коняй не набярэшся яды і вады, а травы і рэк там няма. Вось калі патрэбен вярблюд.

Вярблюда доўга кормяць, перш чым выехаць на ім у пустыню. Гэта, каб у гарбох яго сабралася шмат тлустасьці. Потым зьбіраецца многа людзей з вярблюдамі, кладуць на гарбы тавар, а зьверху садзяцца паганятыя.

Так едуць людзі па пустыні доўга, аж пакуль не натрапяць на оазіс. Оазіс, гэта—месца, дзе цячэ крыніца, тут расьце трава. Тут караван (увесь гурт тых, што едуць) адпачывае. Вярблюды пасуцца, п‘юць ваду з крыніцы, запасяць тлустасьць у гарбох. Калі вярблюды адпачнуць, людзі едуць далей.

---

## СЬНЯЖЫНАЧКІ-ПУШЫНАЧКІ

*Нарыс А. ПОЛЯКА*

Сьняжынкі, як белыя маленькія матылькі, лёталі ў паветры.

Нэля, дзяўчынка 8-мі год, з белымі як сьнег валосікамі, выбегла на вуліцу.

— Сьняжыначкі, сьняжыначкі!—закрычала яна.

Некалькі сьняжынак упала ёй на рукаў курткі. Дзяўчынка пачала ўважліва іх разглядаць.

— Ай, якія-ж яны прыгожыя, як зорачкі,—сказала яна.

Доўга, мусіць, разглядала-б яна сьняжынкі, каб не пачула голас мамы:

— Нэля, ты забылася, што табе пара ісьці ў школу.

Зараз-жа, борзьдзенька пабегла яна ў школу, але думкі аб сьняжынках не пакідалі яе: „Чаму яны такія прыгожыя? Адкуль яны бяруцца?“

Як лёгкі ветрык, уляцела Нэля ў сваю клясу. Яе сустрэла настаўніца. Тут Нэля, ня здымаючы вопраткі, запытала ў настаўніцы:

— Чаму сьняжынкі, як зорачкі? Адкуль яны бяруцца?

Настаўніца абяцала адказаць ёй на гэтыя пытаньні і, каб уцягнуць у гутарку ўсіх дзяцей, прапанавала ім пайсьці на вуліцу і добра разгледзець сьняжынкі.

— Зорачкі, зорачкі,—крычалі дзеці, бягучы на вуліцу.

— Так, так,—сказала настаўніца,—сьняжынкі маюць форму зорак. Яны стварыліся самі пры дапамозе холаду. Вы ведаеце, што вада выпарваецца маленькімі нябачнымі простым вокам кропачкамі. Гэтыя кропачкі разам з цёплым паветрам узьнімаюцца ўгору. Чым вышэй яны ўзьнімаюцца, тым усё больш халаднеюць. Потым на пэўнай вышыні гэтыя кропачкі вады ад холаду пачынаюць замярзаць і ствараюць тыя зорачкі-сьняжынкі, якія вы зараз бачыце. Пасьля гэтага яны зьліваюцца адны з другімі, робяцца цяжэйшымі, ствараюць цэлыя хмаркі, якія і ападаюць на зямлю.

Усе дзеці ўважліва слухалі гутарку настаўніцы. Нэля ад зацікаўленасьці нават аж рот разявіла. Яна наляту лавіла кожнае слова настаўніцы, а потым сказала:

— Вось усё гэта я раскажу дома маме і Клары, сваёй малодшай сястрыцы, бо яны таксама ня ведаюць, адкуль бяруцца сьняжыначкі.



# ТАРАКАН



Патушылі агонь. Цёмна і ціха стала ў хаце. Палеглі ўсе,—хто на палку, хто на ложках.

Але, што гэта за шум такі пачуўся каля печы? Нехта ціханька скрабецца па гліне, нехта шастае па паперы, якою заслана палічка.

Гэта павылазілі з-падпечку, з дзірак і шчылін нашы кватаранты—тараканы. Ціха сядзяць яны, пакуль сонца сьвеціць у вокны; ціха сядзяць яны і ўвечары, пакуль гарыць лямпа, пакуль ходзяць, шумяць і стукаюць па хаце людзі. Калі стане ціха і цёмна, калі ўгамоняцца людзі, тады пачынаюць свой дзень тараканы.



Голад выгнаў іх з шчылін, трэба ім хутчэй бегчы шукаць сабе ежы. Павылазілі, разьбегліся ў розныя бакі. Вось адзін вусаты маладзец забраўся ў брудную міску, у якой прысохла астача ад яды.

Вось цэлая куча сабралася на падлозе ў кутку пад лаваю, куды зьмяла сьмецьце і крошкі гаспадыня. Цёмным вяночкам умасьціліся тараканы на памыйным вядры. Адтуль трохі папаўзло на прымурак, і праз хвіліну пачынаецца баль у адкрытым гаршку з кашаю.

Смачна заўтра будзе есьці кашу, пасьля таго, як тараканы на сваіх лапках прынесьлі туды ўсякай брыдоты з памыйнага вядра!

Добра жывецца тараканом там, дзе гаспадыні ня мыюць пасуды, не падмятаюць на-нач, ня выносяць з хаты сьмецьця, не закрываюць шчыльна харчоў!

Тараканы ўмеюць толькі грызьці яду—на тое ў іх і рот з цьвёрдымі, вострымі кручкамі. Усюды лезуць яны, дзе ёсьць спажыва. На лапках у іх вострыя кіпцюрыкі, якія яны запускаюць у дрэва і так добра поўзаюць.

Скачуць тараканы таксама спрытна—на тое ў іх і ногі доўгія і дужыя. Вось лётаць яны ня ўмеюць, хоць і ёсьць крыльлі, нават дзьве пары. Цела іх досыць цяжкое.

Асабліва цяжкая ў яго задняя частка—чэраўца; вісіць чэраўца на грудках на тоненькім сьцябле і так валочыцца па зямлі, калі бяжыць таракан. У некаторых самак за чэраўцам штосьці валочыцца, нібы даўгі жоўты гарэх. Вельмі цікава злавіць таракана з такім камячком, пасадзіць яго ў скрыначку і паглядзець, што атры-

маецца. А атрымаецца цэлая кучка маленькіх тараканчыкаў.

Павылазяць яны з круглага камячка, такія мяканькія, кволенькія, беленькія—толькі вочкі чарнеюцца. Аднак, бегаць адразу ўмеюць, і ўсе абавязкова пабягуць у адзін бок—туды, дзе цямней. І есьці таксама адразу ўмеюць, толькі дайце чагонебудзь. Раніцою іх ужо не пазнаеш—яны зробяцца цёмнымі, цьвёрдымі, зусім, як старыя, толькі ростам меншыя ды крыльляў у іх няма.

Калі добра пашукаць па шчылінах, то можна знайсьці і вялікіх тараканоў, вельмі мяккіх, зусім сьветлых, амаль белых; яны і ўначы ня вылазяць, сядзяць у сваіх кутках. Злавеце такога таракана і пасадзеце ў скрыначку—на заўтра не пазнаеце яго, нібы хто выняў вашага белага ды на яго месца пасадзіў звычайнага.

У некаторых вёсках баяцца белага таракана, кажуць—бяды трэба чакаць той хаце, дзе такое цуда зьявілася! А таго ня ведаюць, што цудам такім кожны таракан за сваё жыцьцё шэсьць разоў бывае. Час ад-часу кожны таракан скідае з сябе ўсю шкуру: лопаецца шкура на сьпіне і вылазіць з старай цьвёрдай, цёмнай шкуры белы ды мяккі таракан. Памаленьку новая, белая, слабенькая шкура пачынае ў яго цямнець і цьвярдзець, а праз дзень ён зноў становіцца, які і быў.

Чым больш гразі ў хаце і бруду, тым больш, значыцца, і ежы тара-



Нага таракана.



Мяшэчак з яечкамі.



Расчрыты мяшэчак, відаць яечкі.

каном, а чым больш ежы, тым хутчэй яны растуць і плодзяцца. Бывае столькі іх наплодзіцца, што ня ўседзець у хаце. Толькі адзін спосаб пазбавіцца ад іх—у халодны дзень выбрацца ўсім з хаты на два дні, каб тараканы вымерзьлі.

Тараканы ня холаду баяцца, а раптоўнай зьмены цяпла на холад. Толькі пасьля гэтага старайцеся трымаць хату ў чыстаце.

**Н. Ліпіна**



# РАЗВОДЗЬЦЕ ТРУСОЎ

*П. ЛОПУХА*



Трусы вельмі падобныя на зайцоў, некаторых нават нельга пазнаць: заяц гэта ці не?

Трусік лёгка разводзіцца на дварэ. А разводзіць іх вельмі выгадна. У некаторых краінах для трусоў робяць знарочыстыя будынкі-заводы, дзе і разводзяць іх. На малюнках відаць некалькі скрынак з трусамі,—гэта трусы з аднаго заводу.

Трусоў можна разводзіць ня толькі на заводзе, але і ў кожнай гаспадарцы.

Мяса трусоў вельмі карыснае, яно куды лепшае, чым мяса зайцоў. Трусы вырастаюць да 6 кілё, а то і больш. Шкуры трусоў можна прадаць. Яны каштуюць ад паўрубля да некалькіх рублёў.

Разводзіць трусоў лёгка, і гэта па сіле дзецям, толькі трэба сур'ёзна ўзяцца за работу і ўсё пойдзе на лад. Праз некалькі месяцаў ужо можна будзе пачаставаць сваіх хатніх мясам, а грошы за шкуркі скарыстаць на кніжкі і сшыткі для сябе.

Трусоў можна выбіраць самых простых, але трэба глядзець, каб яны былі здаровымі.

Разводзіць трусоў лепш аднае шэрсьці— альбо зусім чорных альбо белых, але не пярэстых, бо шкуркі з іх каштуюць таней. Улетку трусоў можна разводзіць на дварэ, зімою—у якім-небудзь хляве. Холаду трусы не баяцца.

Для маладых трусоў трэба зрабіць агульны невялічкі катух, старых-жа самцоў і самак трэба трымаць у асобных скрынках.

Калі хто думае заняцца гэтаю справаю, дык раім скрынкі лепш падрыхтаваць зімою. Для самак і самцоў яны робяцца аднае меры: вышынёю і шырынёю ў адзін аршын і даўжынёю паўтара аршына. З пярэдняга даўжэйшага боку трэба зра-

біць ваконца з драбінак, гэта ваконца можа быць і з дзьверцамі. Можна зрабіць і стрэшку на завесках. Для самкі скрынку трэба перагарадзіць на дзьве палавінкі— цёмную і сьветлую. Для самца-ж перагародка непатрэбна.

Скрынкі павінны быць увесь час чыстымі, бо ад гразі ў трусоў жаўцее і зусім псуецца шкурка, а ад сухасьці трусы могуць загінуць. Каб скрынкі лепш трымаць у чыстаце, трэба зрабіць з вузкіх дошчачак другую падлогу, якая будзе на вяршок вышэй за першую. На дне трэба зрабіць спад, каб увесь гной выцякаў вон.

Трусоў трэба падсьцілаць саломаю, якая зьмяняецца ўсякі раз, як толькі намокне, на свежую; самкам подсьціл кладзецца ў цёмную частку скрынкі.

Для пяці альбо шасьці самак хопіць аднаго здаровага і дужага самца. Для таго, каб атрымаць прыплод, самка на некалькі гадзін альбо на ўвесь дзень пераносіцца ў клетку самца. Звычайна праз месяц зьяўляюцца трусяняты. За некалькі дзён да нараджэньня трусянят, самцы трэба ставіць ваду і мяняць яе кожны дзень. У гэты час у самкі разьвіваецца вялікая смага, і калі блізка няма вады, самка часта зьядае сваіх трусянят. Адразу-ж пасьля радоў няжывых трусянят трэба выкінуць.

У гэты час, пачынаючы ад радоў, самцы трэба даваць добры корм, і калі можна, то разьведзенае малако. Праз паўтара месяца трусянят адсаджваюць ад самкі і разам з другімі трусянятамі ад другіх матак садзяць у агульны катух, які павінен быць каля мэтра шырынёю і каля двух мэтраў даўжынёю. Сьценкі вышынёю ў 50-60 сантымэтраў робяцца з рамак, якія абцягнуты дротаваю сеткаю. Можна абыйсьціся бяз сеткі і зрабіць клетачку-драбінкі.

Карміць трусоў зімою можна сенам, а таксама даваць гародніну: буракі, моркаў, рэпу і бручку. Сырою бульбаю карміць ня можна, трэба варыць.

Улетку трусы добра ядуць траханя ўсякую траву, лісты ад гародніны. Карміць трэба некалькі разоў у дзень, стараючыся карміць кожны дзень у адзін і той-жа самы час.

Да дзевяці альбо дзесяці месяцаў трусы вырастуць, і іх можна будзе калоць.

З маладняка выбіраюць больш дужых і здаровых самак і, калі трэба, аднаго самца. Астатніх трусоў прызначаюць на мяса, ня выпускаюць іх на волю, а трымаюць у больш цесных загонах. У гэты час корм можна павялічыць і даваць галоўным чынам, вотрубі і зусім мала зяленіва, ад гэтага мяса трусоў будзе лепшым. Забіваюць трусоў палкаю па галаве між вушэй. Біць трэба зьлёгку. Праз гадзіны дзьве, калі трус астыне, можна зьдзіраць шкуру. Шкуру тут-жа ачысьціць ад лою і расьцягнуць на дошцы, каб яна высахла.

Шкуркі купляюцца, галоўным чынам, зімовыя, бо яны лепшыя за летнія. Прымаюць шкуркі ў аддзяленьнях Дзяржгандлю, якія ёсьць амаль ва ўсіх гарадох.



# ЯК РОЗНЫЯ НАРОДЫ ЯДУЦЬ

*(Працяг).*

дакранецца губамі да кубка, а падымае яго над галавой і зьверху лье ў разяўлены рот.



Кітайцы ўжываюць замест лыжак і відэльцаў асобныя палачкі. Палачкі гэтыя робяцца з сланёвай касьці, бамбука або дрэва і бываюць даўжынёю да 30-ці сантымэтраў.

Для нас зьяўляецца дзіўным, што ў Кітаі ня ведаюць пра бульбу. Асабліва яны ласы на мяса: лепшым мясам лічыцца мяса вожыка, сабакі, асла, мядзьведзевы лапы, паплаўкі акулы і смажаныя скарпіёны. Яду часта запіваюць асобным віном, якое падаецца ў лушпіне ад вялікага гарэха. Пасьля яды п'юць гарбату, якая гатуецца зусім ня так, як у нас. У кожны кубак кладуць па некалькі чайных лісткоў і заліваюць гарачай вадою. Калі вас кітаец запрасіў на абед і хоча зрабіць вам вялікую прыемнасьць, то ён сваімі палачкам кладзе вам у рот лепшую яду. Калі вы ня хочаце есьці, вам трэба сказаць: „Мой жывот яшчэ не адкрыты для яды“.



Японскі афіцэр, якому пададзена яда, ніколі адразу не пачынае есьці, але раней устане і паклоніцца.

Канакі (жыхары Полінэзіі) наогул ня маюць ніякіх прыладаў для яды. Яда кладзецца на сьвежыя зялёныя лісты. Яда пароўну падзяляецца паміж усімі членамі сям'і і паліваецца какосавым малаком. Кожны бярэ свой ліст і есьць. Члены сям'і сядзяць у час яды адзін да аднаго сьпінаю. Некаторыя саромяцца есьці ў прысутнасьці другога чалавека і хаваюцца ў свой шалаш. Вельмі рэдка канакі ядуць разам з вялікага бананавага ліста. Тады не размаўляюць, бо баяцца, каб хто ня зьеў болей.

З нямецкай мовы пераклаў У. ЛУКАШЭВІЧ.

Верш АСТАПЕНКІ · Мал. П. ГУТКОЎСКАГА




На ізрубе цесьляры
Нагастрылі тапары...
Тапары блішчаць агнём,
Трэскі сыплюцца дажджом.
— Гак-гак-гак!—сякуць
вясёла:—
Будзе хутка, дзеці, шко-
ла!..
Вось і вокны, вось і дах,
Вось і ганак на слупах.
Тапары сякуць вясёла,
Хутка, хутка будзе школа...
Прыбягуць з вясковых хат
Шмат хлапцоў і шмат дзяўчат.
Тут і Нінка, і Галенка,
І Марылька, і Сымонка,
І Тадорка, і Паўлюк,
І з колгасу—Клім, Янук...
Прыбягуць, пасядуць разам
Ля настаўніка у клясе.
Крыкне тут за ўсіх Андрэй:
— Навучэце нас хутчэй!

Друк. БДВ. Зак. № 1137. У ліку 5.600 экз. Галоўлітбел № 815.

ЦАНА 18 кап.



ЗІМА НА р. СЬВІСЛАЧЫ. Фото У. СЕМЯНЯК.

*Хто першы адгадае ўсе загадкі, таму рэдакцыя дасьць прэмію: на 3 месяцы выпіша „Іскры Ільліча“.*

### ЗАГАДКІ

Белае поле, чорнае насеньне, хто ўмее—пасее, хто знае—адгадае.

*

І не сабака, а хату вартуе.

*

Прыйшоў сівы дзед, зрабіў белы мост, прыйшла дзеўка-маладуха, па мосьце патупала,—мост разваліўся, а дзед аж у моры апыніўся.

*

На дрэўцах вязуць, касьцямі сякуць, мокрая пастка глытае—ніхто не адгадае.

*

Воз без калёс, дарога без пяску, а пуга з дошкі.

*

Ідзе чалавек—і яно ідзе, а спыніцца і яно стане.

*

Бяз ног, а ходзіць.

*

Стукаціць, грукаціць, як сто коняй ляціць; трэба стаць, пагадаць, што тым коням есьці даць.

*

Поўна бочачка віна, нідзе дзірачкі няма.

*

Поле-ня зьмерана, быдла—ня зьлічана, пастух—рагаты.

## ПАДУМАЙ

*

Ідзе чалавек у лес—яно глядзіць на вёску.

Ідзе чалавек у вёску—яно глядзіць у лес.

*

Ой на гары—гай, пад гаем—мігай, пад мігаем—сапай, пад сапаем—хапай. А ну, адгадай?

*

Што гэта за зьвер такі, што рана ходзіць на чатырох нагах, удзень на двух, а ўвечары на трох?



*Якія гэта кружкі—кантовыя, ці круглыя?*